«НАШАЕ ЖЫЦЬЦЁ» — грамадзкая газэта

# НАША ЖИЗНЬ

«НАША ЖИЗНЬ» — общественная газета

№11(35) ноябрь 2012

# У ВІЦЕБСКУ ПРАХОДЗІЦЬ ВЫСТАВА МІКОЛЫ КУПАВЫ



**На ўгодкі з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча, 26 лістапада, у віцебскай мастацкай галерэі "Сцяна" адкрылася выстава вядомага беларускага мастака Міколы Купавы. На ёй майстар прадставіў сваю кніжную графіку і ілюстрацыі да кнігі казак Караткевіча "Лебядзіны скіт".**

Вернісаж знакамітага мастака са сталіцы сабраў, калі можна так сказаць, увесь віцебскі беларускамоўны бамонд. Адкрыццё выставы наведалі мастакі **Міхась Ляўковіч**, **Святлана Баранкоўская**, пісьменнік **Сяргей Рублеўскі**, акцёр **Пятро Ламан**, грамадскі актывіст **Барыс Хамайда** і іншыя вядомыя ў нашым горадзе людзі. Прыехаў з Оршы і зямляк Купавы, бард **Андрэй Мельнікаў**. Сярод прысутных быў і экс-кандыдат у прэзідэнты **Рыгор Кастусёў**.

На адкрыцці выставы Мікола Купава прызнаўся, што ў Віцебску ягоныя творы экспануюцца ўпершыню. Мастак распавёў, што, па сутнасці, гэта дзве выставы ў адной. Першая прысвечана 130-годдзю з дня нараджэння **Янкі Купалы і Якуба Коласа**, а другая – **Уладзіміру Караткевічу**.

У складзе экспазіцыі ёсць працы, сродкі ад продажу якіх мастак ахвяруе на рэстаўрацыю былога кляштара базылянаў у Воршы. Ен памятае, як многія гістарычныя будынкі знішчаліся ў яго на вачах, а будынак старога кляштара — адзінае, што захавалася да нашага часу. Кляштар з'яўляецца помнікам архітэктуры 18 стагоддзя, але зараз знаходзіцца ў занядбаным стане, кажа мастак: «У Воршы гэта адзіны вельмі важны архітэктурна-гістарычны аб'ект. Усё астатняе было зьнішчана ў 60-я гады. Прытым на маіх вачах бурылі ў 1957–59 гадах і аж да 1968 году, і потым яшчэ. Засталіся толькі муры кляштара, і іх трэба ўратаваць, таму што яны ў кепскім, аварыйным становішчы».

Мікола Купава гатовы ахвяраваць на аднаўленьне кляштара 20 карцін – каб прадаць іх ды перадаць грошы ў рэстаўрацыйны фонд. Гэта працы з аршанскімі краявідамі, у тым ліку і самога помніка, афорты паводле твораў Караткевіча, творы, прысвечаныя паўстанню Кастуся Каліноўскага, Аршанскай бітве.

Даведка "ННВ": Мікола Купава працуе у галіне кніжнай і станковай графікі, акварэлі, жывапісу. Даследуе беларускую архітэктуру, у прыватнасці, аршанскае абарончае і сакральнае дойлідтва. Выканаў мастацкае аздабленне больш 30 кніг і альбомаў. За мастацкае аздабленне энцыклапедычнага даведніка "Францыск Скарына і яго час" (1988 г.) узнагароджаны дыпломам і медалём імя Францыска Скарыны – найвышэйшай узнагароды ў галіне кніжнага мастацтва ў Беларусі. Браў удзел болей як у 80 міжнародных і нацыянальных выставах. Творы мастака захоўваюцца у шматлікіх музеях Беларусі, а таксама ў прыватных зборах ЗША, Эстоніі, Літвы, Польшчы, Украіны.

Яна Ільіна

# У ВІЦЕБСКУ ЧЫТАЛІ ВЕРШЫ КАРАТКЕВІЧА



**Увечары 26 лістапада сябры віцебскай арганізацыі партыі БНФ прыйшлі да помніка Уладзіміру Караткевічу каб ускласці кветкі ў дзень нараджэння знакамітага сына беларускай зямлі.**

Каля 15 сябраў партыі БНФ прыйшлі да помніка Ул.Караткевічу. На знак пашаны былі пакладзены букеты да помніка, прачытаныя каля дзясятка вершаў, адбылася невялічкая дыскусія пра сёняшнія віцебскія і аршанскія падзеі.

Не абышлося без ветлівага супрацоўніка міліцыі, які папярэдзіў пра недазволены характар мерапрыемства і прапанаваў прысутным разысціся і невядомых "гражданскіх" з відэакамерай, якія моўчкі слухалі вершы і ўважліва сачылі за тым, што адбываецца.

Да віцебскіх аднапартыйцаў далучыўся і намеснік старшыні партыі БНФ **Рыгор Кастусёў**, які прыняў актыўны ўдзел у падзеях.

# НА КАБЫЛЯЦКАЙ ГАРЫ ЎСПАМІНАЛІ АХВЯР

**У гэтым месца пад Воршай у часы сталінскіх рэпрэсій расстрэльвалі бязвінных мірных жыхароў. Тут усталяваны помнік, каля якога штогод на Дзяды збіраюцца людзі.**



У гэтым годзе 3 лістапада ўшанаваць памяць ахвяр сталінскага рэжыму сабралася два дзесяткі чалавек. Прадстаўнікі Аршанскай кааліцыі дэмакратычных сіл прыбралі месца масавых расстрэлаў, прысутныя запалілі свечкі, усклалі кветкі і вянкі. Па чарзе слова бралі розныя людзі — нехта чытаў малітву, нехта ўзгадваў імёны тых, пра каго дакладна вядома, што апошні спачын яны знайшлі на Кабыляцкай гары.

Нехта прымацаваў да помніка дадатковую шыльду з імём і датай растрэлу пахаванага тут чалавека – Ціхана Краўчанкі, рэабілітаванага праз 20 год пасля смерці, у 1959 годзе.

Удзельнікі жалобнай акцыі звяртаюцца да ўсіх, хто ведае імёны растраляных тут людзей, каб пра іх паведамлялі грамадскасці. Магчыма, на Кабыляцкай гары з'явяцца новыя мемарыяльныя шыльды – каб людзі памяталі пра кожную ахвяру сталінізму.

Паводле http://orsha.eu

# "ДОН-ЖУАН БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ" У ВІЦЕБСКУ

**Віцебскія аматары прыгожага пісьменства і спеваў учора атрымалі цудоўны падарунак – у абласной бібліятэцы прайшла сустрэча з беларускім паэтам і эсэістам Леанідам Дранько-Майсюком і паэтам, бардам Эдуардам Акуліным. Гэткай жа кампаніяй яны прыязджалі ў Віцебск і пяць год таму.**

Дранько-Майсюка называюць "Дон-Жуанам беларускай літаратуры": за тонкую пачуццёвасць у вершах, за



адметны стыль, за ягоны лірычны гімн жанчыне.

Не так даўно паэт адзначыў сваё 50-годдзе. Таму, як пажартаваў Акулін,ператварыўся ўжо ў "Дон-Кіхота". Але, нягледзячы на змену "вобраза", Леанід па-ранейшаму збірае паўнюткія залі прыхільніц сваёй творчасці. Так было ўчора і ў Віцебску: паслухаць яго прыйшлі пераважна адны жанчыны.

Л.Драньк-Майсюк прэзентаваў сваё апошняе па часе выданне – «Кнігу для спадарыні Эл» (выйшла два месяцы таму ў Бібліятэцы Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка"). У зборнік увайшлі проза, п'еса і, канешне ж, цудоўныя вершы.

Літаратар разважаў на тэмы, досыць балючыя для беларускага мастацтва. "У нашым кіно, літаратуры, жывапісе сёння сурагат, яны існуюць у нейкім хаосе", – адзначыў ён. І заўважыў, што ў нацыянальнай гісторыі існуе процьма добрых сюжэтаў для "Беларусьфільма".

"Калі каралева Бона прыязджала ў Пінск, да яе заўсёды прывозілі каралеўскага мастака з Давыд-Гарадка - Алеся Навошу, які меў незвычайную мужчынскую прыгажосць. Легенда гэта ці не легенда, гістарычная праўда ці цудоўная паэтычная выдумка, але гэта такі сцэнарны ход для "Беларусьфільма" – каханне каралевы Боны да палескага мастака. Гэта быў бы такі прыгожы, такі цікавы, такі касцюмны фільм! І наша душа адпачыла б на нашай гісторыі, хараستве нашай прыроды і псіхалогіі. І хоць на гадзіну-дзве мы забыліся б на тыя фільмы, што штодзень круцяць па ўсіх тэлеканалах. Акрамя таго, у нас можна здымаць фільмы пра **Браніслава Тарашкевіча**, пра братоў **Луцкевічаў**, пра **Вацлава**



**Ластоўскага**, пра **Янку Купалу**. Нават пра Купалу ў нас няма фільма!.." – скрушана адзначыў паэт.

Песняра ўзгадаў і Акулін. Спачатку ён прэзентаваў літаратурна-мастацкі часопіс "Верасень", а потым праспяваў некалькі сваіх новых песень. І адну старую, неўміручую – "Янка Купала". Гітарай, голасам і жартамі Эдуард так зачараваў жаночую аўдыторыю, што апладысменты для яго не сціхалі доўга…

Яна Ільіна

# ДЗЯДЫ ПАД ПОЛАЦКАМ

**Полацкія актывісты і вернікі з мясцовай грэка-каталіцкай парафіі сабраліся каля мэмарыяльнага крыжа ў вёсцы Бельчыцы пад Полацкам.**

Гэты крыж быў усталяваны тут у 1990-я гады ў памяць пра ахвяраў стлінскіх рэпрэсій, апавёў полацкі актывіст **Віктар Стукаў**:

«Памяць пра расстраляных у бліжэйшым яры мірных жыхароў жыве і дагэтуль. Людзі зьбіраюцца тут на Дзяды ўжо 16 год запар. Тут усталявалі памятны крыж — спачатку драўляны, потым жалезны. Гарадзкія ўлады былі супраць, дык сябры БНФ зьвярнуліся да раённых уладаў, і тыя дазволілі... Сёлета нас сабралася васьмёра, былі людзі з Полацку і Наваполацку. Прайшла паніхіда па нявінна загубленых нашых земляках, яе адслужыў сьвятар грэка-каталіцкай царквы айцец Аляксандар».

Прадстаўнікі дэмакратычнай грамадзкасьці адведваюць гэтае месца некалькі разоў на год, абавязкова — на Радаўніцу і на Дзяды.

2 лістапада людзі маліліся за ахвяраў сталінізму



каля крыжа ў Бельчыцах, а 3 лістапада памінальная служба пройдзе ў полацкай грэка-каталіцкай царкве.

# УЛАДЗІМІР АРЛОЎ У ПОЛАЦКУ

**Думкі і ўражанні з прэзентацыі 21 лістапада.**

Нельга сказаць, каб сустрэча вельмі ўжо афішавалася. З таго, што трапіла мне ў вочы - невялікая абвестка ля ўвахода ў цэнтр рамёстваў і суполка ў сацыяльнай сетцы “ўкантаце”, створаная **Алесем Замкоўскім**. Але тым не менш, жадаючых завітаць на сустрэчу з вядомым гісторыкам і пісьменнікам аказалася шмат - нават не ўсім хапіла месца. Пабачыць і паслухаць славутага земляка прыйшлі прадстаўнікі розных пакаленняў - ад падлеткаў да людзей сталага ўзросту.

Калі пісьменнік толькі ўвайшоў у пакой - адразу ж пачаліся апладысменты. Ведаеце, гэта так неверагодна і крута - бачыць і чуць перад сабой ужывую чалавека, кнігі якога з такім запалам і захапленнем неаднойчы перачытываліся. Але пісьменнік аказаўся вельмі простым і звычайным чалавекам - ён гэтаксама як і ўсе, да пачатку імпрэзы размаўляў, жартаваў, смяяўся.

Сустрэча пачалася крыху пазней запланаванага, але затое ўсе, хто хацеў, паспелі дайсці. Ці варта казаць што гледачы слухалі аўтара ў поўнай цішыні?.. Уладзімір Аляксеевіч напачатку распавёў пра свае кнігі, а менавіта - “Краіна Беларусь - Вялікае Княства Літоўскае”, і яе папярэдніцу “Краіна Беларусь”. Кнігі выдадзены ў сааўтарстве з **Змітром Герасімовічам**. Яны пабачылі свет дзякуючы Браціслаўскаму выдавецтву ў Славакіі. Разам яны важаць, як паведаміў аўтар, амаль 5 кілаграм. Асаблівасць кнігі прысвечанай ВКЛ-му - тое што гэта ілюстраваная гісторыя, якая змяшчае ў сабе каля 2000 ілюстрацый: схем, карт, фатаздымкаў і г.д. Асабліва аўтар падкрэсліў фатаздымак з старонкі 362, назваўшы яго сваім улюблёным, і выказаў надзею, што нечага падобнага калі-небудзь можа і дачакаемся. (па сакрэту, у каго няма кнігі - там змешчана фота з урачыстага банкета, які адбыўся пасля абвяшчэння БНР 25 сакавіка 1918 года).

Выдадзеныя творы нарабілі шуму і ў суседняй краіне, Літве. Як распавёў пісьменнік, выходзілі артыкулы і тэлеперадачы наконт кніг. Адзінкі нават прама заявілі што “беларусы крадуць літоўскую гісторыю”. На гэта аўтар распавёў жарт: “У бібліятэку імя Скарыны ў Лондане прыехалі 2 літоўскіх дыпламата з Вялікабрытаніі. Яны звярнуліся да дырэктара, папрасілі пагартаць Статут ВКЛ. Пасля, калі дырэктар запытаўся, ці зразумелі яны што, адказалі: “З таго часу літоўская мова вельмі змянілася...”

Прэзентаваныя кнігі насамрэч выглядаюць вельмі шыкоўна - высокая якасць паперы, якасныя рэалістычныя малюнкі, прыгожая вокладка. Праўда, і каштуюць суадносна - 340 000 і 360 000 тысяч беларускіх рублёў. (сумны факт - стэпендыя ўсіх першакурскнікаў у першы семестр складае 423.000). Хаця, падаецца, не толькі ў студэнтаў была такая рэакцыя - пані за маёй спіной з здзіўленнем адзначыла: “Нехило…”.

У наступнай часцы сустрэчы аўтар прадставіў кнігу “Пакуль ляціць страла”, таксама 2012 года, выдавецтва “Радыё Свабода”. У ёй, як адзначыў Арлоў, прынялі ўдзел больш за 100 сааўтараў - гэта людзі, якія на папярэдніх творчых сустрэчах і прэзентацыях задавалі пісьменніку пытанні. Адказы на іх ён і змясціў у дадзеную кнігу. На гэтай імпрэзе задаць пытанне пісьменніку таксама была магчымасць, чым многія і скарысталіся. Пытанні былі розныя: пра гістарычныя сны, пра ўдзел у партыі, меркаванне пра тэлебачанне, любімае імя, полацкія помнікі, мову і іншыя.

А на развітанне Уладзімір Арлоў чытаў свае вершы. Паэтычны зборнік з назвай “Свецяцца вокны, ды нікога за імі” ўвабраў у сябе лепшыя творы з дзвух папярэдніх кніг, і ў дадатак - вершы, якія былі напісаны ў апошні час. У поўнай цішыні некаторыя з іх аўтар, і пасля апошніх словаў яшчэ доўга гучалі апладысменты.

Дар’я Міхайлоўская

**«НАША ЖИЗНЬ»** - общественная газета. Издатель - коллектив редакции. Выходит нерегулярно. Тираж **299** экземпляров. Редактор - **Христафор Желяпов**. Вёрстка - **Сергей Солидный**. Напечатана на частном оборудовании на свои средства и с помощью единомышленников.
http://kamunikat.org/naszaje_zyccio.html

# КАНФЭРЭНЦЫЯ БХД У ВІЦЕБСКУ

**У Віцебску 27 кастрычніка прайшла абласная канфэрэнцыя аргкамітэту па стварэньні партыі "Беларуская хрысьціянская дэмакратыя". У ёй удзельнічала больш за 30 чалавек з 12 раённых структур БХД Віцебскай вобласьці, а таксама кіраўніцтва аргкамітэту.**

Падчас канфэрэнцыі была дадзеная адзнака дзейнасьці сяброў аргкамітэту падчас кампаніі байкоту, прааналізаваныя плюсы і мінусы іх дзеяньняў, абмеркаваны далейшы плян дзейнасьці віцебскіх актывістаў, у тым ліку ў межах кампаніяў "Моцная сям'я – моцная Беларусь" і "Рада народных дэпутатаў".

Напрыканцы канфэрэнцыі ў сувязі з узмацненьнем рэпрэсіяў супраць актывістаў БХД з боку ўладаў за дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі (у прыватнасьці, пастаноўка на ўлік у КДБ Алега Аксёнава) быў праведзены ўстаноўчы сход грамадзкай арганізацыі "Хрысьціянскія дэмакраты Віцебшчыны". На сходзе былі зацьверджаныя ўсе неабходныя дакумэнты, якія на працягу месяцу будуць пададзеныя для рэгістрацыі арганізацыі.




Такія сходы плянуецца ладзіць і ў іншых рэгіёнах Беларусі для як мага больш шырокай абароны сяброў БХД.

# ПАМЯЦІ ЖУРНАЛІСТА ЮРАСЯ СЦЯПАНАВА

**Не стала віцебскага журналіста, супрацоўніка Польскага радыё для замежжа Юрася Сцяпанава. Яму было ўсяго сорак пяць…**

Юрась хварэў на гіпертанію. Чарговы прыступ забраў у бацькоў – сына, у жонкі – мужа, у двух маленькіх дзетак – бацьку, у журналістыкі – прафесіянала.

Самае страшнае для журналіста – гэта пісаць некралогі. Не стае ніякіх слоў і думак, замест іх толькі боль і сум. Боль, што ты больш не сустрэнеш на вуліцы Юрася. Не абмяняешся па-каляжанску навінамі. Не пасмяешся з ягоных жартаў – Юрась рассмяшыў бы нават царэўну-несмяяну. Не пачуеш ягоных кампліментаў – ён умеў рабіць іх так выкшталцона і тонка, прама як нейкі кніжны рыцар.

Сум і вялікае непаразуменне: чаму сыходзяць такія маладыя, здольныя, жыццярадасныя?!

Асабіста для мяне Юрась быў прыкладам вялікага цярпення да чалавечых недахопаў. Ён умеў на дзіва спакойна і роўна ставіцца да ўсіх. А яшчэ ў яго было надзвычай цудоўнае пачуццё слова, ён ведаў некалькі моваў. Не кожны журналіст можа гэтым пахваліцца.




Вечная памяць табе, Юрась. І даруй, калі што не так…

Яна Ільіна

# У ДЗІСНЕ АДБУДОЎВАЮЦЬ ФРАНЦІШКАНСКІ КАСЦЁЛ

**У горадзе Дзісна працягваецца адбудова касцёла Беззаганнага Зачацця Дзевы Марыі, моцна пашкоджанага камуністамі.**

Будаўнічыя працы пачаліся ў 2006 годзе. Наноў збудаваныя сцяна галоўнага фасаду з франтонам, аднаўленыя перакрыцці столі, пакладзены дах.

Цяпер касцёл стаіць увесь у рыштаваннях. Дзісненскі пробашч ксёндз **Аляксандр Грыцкевіч** распавёў, што налета пачнецца тынкаванне, афарбоўка, аздабленне касцёла.

Касцёл напачатку належаў да кляштара францішканаў, які ў фундаванага ў 1630 годзе полацкім шляхціцам **Кшыштафам Мальхевічам Хляхоўскім.** Ахвяраванні на кляштар рабіў і славуты глыбоцкі мецэнат **Язэп Корсак.**

Мураваны касцёл у стылі барока скончылі муроваць і асвяцілі ў 1773 годзе. У 1833 годзе расійскія ўлады прагналі францішканаў з Дзісны, а касцёл перайшоў у рукі мясцовай парафіі.

Трагічным у гісторыі касцёла Беззаганнага Зачацця Дзевы Марыі стаўся 1958 год. Мясцовыя жыхары ўспамінаюць, як сын начальніка міліцыі п'яны страляў з карабіна па фігуры Маці Божай, усталяванай на франтоне касцёла. У хуткім часе юнака забіла маланка. Людзі палічылі гэта за Боскую кару, а бацька ўзяўся помсціць Богу – запрасіў у Дзісну вайскоўцаў, каб узарвалі касцёл. Тыя зрабілі два выбухі – разбурылі перакрыцці і сцяну галоўнага фасаду – ды не сталі далей узрываць, бо магутныя выбухі маглі б разбурыць іншыя будынкі.

Доўгі час тры сцяны разбуранай святыні так і стаялі пасярод горада. Пасля вяртання незалежнасці Беларусі дзісненскія каталікі пачалі маліцца ў невялікай капліцы-прыбудове, ды праз пару год могуць атрымаць аднаўлены касцёл.

Кастусь Шыталь